Л. Н. ТАЛСТОЙ



# Філіпок

Быў хлопчык, звалі яго Філіпок. Пайшлі раз усе дзеці ў школу. Філіпок узяў шапку і хацеў таксама ісці. Але маці сказала яму:

— Куды ты, Філіпок, сабраўся?

— У школу.

— Ты яшчэ малы, не ідзі,—і маці пакінула яго дома.

Дзеці пайшлі ў школу. Бацька яшчэ з ранку паехаў у лес, маці пайшла на падзённую работу. Асталіся ў хаце Філіпок ды бабка на печы.

Стала Філіпку сумна аднаму, бабка заснула, і ён стаў шукаць шапку. Сваёй не знайшоў, узяў старую бацькаву і пайшоў у школу.

Школа была за сялом каля царквы. Калі Філіпок ішоў па сваёй слабадзе, сабакі не чапалі яго,—яны яго ведалі. Але калі ён падышоў да чужых двароў, выскачыў Жучка, забрахаў, а за Жучкам вялікі сабака Ваўчок. Філіпок кінуўся бегчы, сабакі за ім. Філіпок стаў крычаць, спатыкнуўся і ўпаў. Вышаў чалавек, адагнаў сабак і сказаў:

— Куды ты, хлапчанё, адно бяжыш?

Філіпок нічога не сказаў, падняў падол світкі і кінуўся бегчы на ўвесь дух. Прыбег ён да школы. На ганку нікога няма, а ў школе, чуваць, гудуць галасы дзяцей. На Філіпку напаў страх: „Што, калі настаўнік мяне прагоніць?“ І стаў думаць, што яму рабіць. Назад ісці—зноў сабака накінецца, у школу ісці, настаўніка баіцца.

Ішла міма школы баба з вядром і кажа:

— Усе вучацца, а ты што тут стаіш?

Філіпок і пайшоў у школу. У сенцах зняў шапку і адчыніў дзверы. Школа ўся была поўна дзяцей. Усе крычалі сваё, і настаўнік у чырвоным шаліку хадзіў пасярэдзіне.

— Ты хто?—закрычаў ён на Філіпка.

Філіпок ухапіўся за шапку і нічога не гаварыў.

— Ды ты хто?

Філіпок маўчаў.

— Ты нямы ці што?

Філіпок так напалохаўся, што гаварыць не мог.

— Ну, дык ідзі дадому, калі гаварыць не хочаш.

А Філіпок і рад-бы сказаць, ды ў горле ў яго ад страху перасохла. Ён паглядзеў на настаўніка і заплакаў. Тады настаўніку стала шкада яго. Ён пагладзіў яго па галоўцы і запытаў у дзяцей, хто гэты хлопчык.

— Гэта Філіпок, Косцікаў брат, ён даўно просіцца ў школу, але маці не пускае яго, і ён крадком прышоў у школу.

— Ну, садзіся на лаўку каля брата, а я тваю маму папрашу, каб пускала цябе ў школу.

Настаўнік стаў паказваць Філіпку буквы, а Філіпок іх ужо ведаў і крышку чытаць умеў.

— А ну, складзі сваё імя.

Філіпок сказаў:

— Хве-і—хві, ле-і—лі, пе-ок—пок.

Усе засмяяліся.

— Маладзец!—сказаў настаўнік.—Хто-ж цябе вучыць чытаць?

Філіпок асмеліўся і сказаў:

— Косцік. Я баявы, я адразу ўсё зразумеў. Я страх які спрытны!

З таго часу Філіпок стаў хадзіць з дзецьмі ў школу.

А. Якімовіч

# Як вожык усіх звяроў перамог

*Рысункі К. Гедды*



Сядзіць Зайка Шарачок пад зялёнай ёлачкай і горка плача. Лапкаю буйныя слёзы выцірае. А слёзы так і сыплюцца, як град, так і сыплюцца. Моцна, відаць, ужаліўся Зайка. Плача ён, бедны, ды ўсё прыказвае:

— Як-жа мне цяпер жыць на белым свеце?.. У-у-у-у-у... Калі так, дык і вераб'я скора бойся... Эх,—кажа,—пайсці хіба ды ўтапіцца з гора...

Плакаў Зайка, плакаў, нарэшце пабег тапіцца.

Прыбягае на рэчку. І толькі намерыўся боўтнуць з высокага берагу ў ваду, як чуе:

— Гэй, касавокі, не бачыш, куды разагнаўся?!—крычыць яму сваячніца Лісіца Хітрыца.—Дрэнна ўсё-ж, скажу табе па шчырасці, мець такія косыя вочы. Так і ўтапіцца можна...

— Вось гэта-ж мне і трэба, — кажа праз слёзы Зайка Шарачок.—Толькі ў воду, толькі ўтапіцца...



— Што ты, браток, што ты?! Апамятайся, што кажаш? Навошта табе тапіцца?

— Як гэта навошта? І ты-б не лепш зрабіла, каб цябе так набіў і пакрыўдзіў... у-у-у,—Зайка захліпнуўся і не мог далей гаварыць.

— Хто набіў? Хто пакрыўдзіў? Нічога не разумею!

— Хто? Ды крываногі таўкач гэты—Вожык. І каб хто людскі,—пры апошніх словах Зайка выцер лапкай самую буйную слязу.

— Ай, ай!—яшчэ больш зацікавілася Лісіца Хітрыца,—Вожык цябе набіў і пакрыўдзіў? Не спадзявалася, браток, не спадзявалася чуць такія навіны. Як-жа гэта хаця здарылася?

Зайка прысеў на заднія лапкі і стаў апавядаць.

— Пайшоў я,—кажа,—нядаўна пад Бярозавую горку салодкай канюшынкі пашчыпаць. А тут і Вожык прыпёрся—паўзун гэты клышаногі—і давай па канюшыне



Вожык толькі што перад гэтым варочаўся дахаты з Бярозавай гары і, як звычайна, каб скараціць дарогу, каціўся клубком,—дзе скокам, дзе бокам. Вось у час такога цікавага падарожжа ён і не агледзеўся, як апынуўся на лісіцынай спіне: яна стаяла якраз пад самаю гарою.

качацца. Так і мне яе, так і топча. Хіба-ж магло стрымаць маё заячае сэрца гэткі здзек? Набраўся я храбрасці ды як закрычу на яго! А ён замест таго, каб уцякаць, падбег да мяне ды давай дубасіць, ды давай іголкамі калоць,—я ледзьве вырабіўся. У-у-у,—зноў расплакаўся Зайка Шарачок.— Ой, трымайце мяне, трымайце, а то ўтаплюся!..

І ён не на жарты намерыўся скокнуць у ваду.

Шкада стала Лісіцы Хітрыцы Зайку. Якні-як, свой чалавек. І калі кожная там казюлька пачне яго крыўдзіць ды ўшчуваць— тады і сапраўды лепш утапіцца.

— Стой, пачакай,—кажа Лісіца,—не тапіся, браток. Я за цябе заступлюся. Ужо я пакажу яму, паўзуну гэтаму няшчаснаму! Як толькі ўбачу, адразу з'ем яго... Будзе ён ведаць! Будзе ён век мяне помніць!

— Заступіся, сястрыца, заступіся.

Зайка зарадваўся і перастаў плакаць.

***

Прыбегла Лісіца Хітрыца да Бярозавай гары, стала ў лагчынцы і выглядае, дзе той Вожык, які так бязжаласна пакрыўдзіў яе прыяцеля Зайку Шарачка. Раптам якісьці цяжкі калючы клубок каменем упаў на яе спіну.

— Фф-р-р-р! пы-ы-х!—зафыркала і запыхкала над самаю яе галавою.—Фф-р-р-р! пы-ы-х!

Лісіца, доўга не думаючы, калі скокне, калі драпане: па пнях ды па карчах, па кустах ды па зарасніках... Толькі хвост пушысты мільгае, сляды замятае.

Вожык бедны так перапалохаўся, што ўплёўся лапамі за густую шэрсць ды толькі фыркае, ды толькі пыхкае. І адарвацца баіцца, і на Лісіцы ехаць страшна.

Лісіца-ж тымчасам думала, што ўжо смерць яе прышла. Прымчалася дадому і шусь у нару. Нара была вузкая, толькі як самой пралезці. Вожык, вядома, сарваўся. Зарадваўшыся гэтаму, ён без аглядкі пакаціўся назад.

Сядзіць Лісіца Хітрыца ў цёмнай нары і ні чхне. „Вось гэта дык звер!..—думае яна.—Ну і адчайны! Не паспела аглянуцца, а ён ужо і на спіну, і душыць і коле. Не, век не буду з ім сама заводзіцца. За вярсту абыйду, калі дзе стрэну“.

Сядзіць Лісіца, а вылезці баіцца. „Хітры,— думае,—нябось, прытаіўся, чакае, ды не прычакацца-ж табе, таўкач няшчасны: памру, а не вылезу“...—цвёрда парашыла яна.

Сядзіць яна так дзень, сядзіць другі. А на трэці чуе знаёмы голас:

— Гэй, кумка-галубка, ці жыва-здарова ты? Што гэта не відаць цябе нешта? Я ўжо, прызнацца, засумаваў без цябе...

Зарадвалася Лісіца Воўку Зубастаму і вылезла. Вылезла і расплакалася.

— Што з табою, кумка-галубка?—пытае Воўк.—Якое такое гора ў цябе?

— Як-жа мне не плакаць,—кажа яна,— як не гараваць? Не толькі плакаць, а пайсці хіба ды ў воду кінуцца. Усёроўна— смерць. Ён-жа мяне другі раз жывую не выпусціць.—І яна расказала куму, як ледзь не задушыў яе Вожык. Каб яшчэ чуць-чуць, дык канцы-б ёй былі. Але Воўк замест спа-

чування давай рагатаць, давай сосмеху качацца. Смешна яму, каб Вожык Лісіцу задушыў.

— Чаго смяешся,—з крыўдай у голасе кажа Лісіца.—Ён і цябе можа задушыць. Ты толькі пападзіся яму на вочы.

Кажа яна так, а сама сабе і думае: „Вось падбухтору Воўка, пакажа ён таму крываногаму паўзуну... Ужо ад яго і духу не застанецца. Будзе ён ведаць“.

— Добра, кумка,—кажа нарэшце Воўк Зубасты,—я за цябе заступлюся.

— Заступіся, кумок, заступіся,—просіцца Лісіца.

— Я яго адным духам разарву!—хваліцца Воўк.

* * *

Сказаў ён так і пабег шукаць Вожыка. Прыбягае да Бярозавай гары. Бачыць—нейкая капіца травы насустрач едзе; без каня і без воза—сама едзе. Разгледзеўся Воўк лепш—аж гэта і ёсць Вожык: начапляў на сябе воз лісця і вязе ў нару.

— Гэй, Вожык, ты што-ж гэта маю куму крыўдзіш,—завыў ён і ляснуў зубамі.

— Я... я...—хацеў нешта адказаць Вожык, ды з перапалоху язык адабрала.

— Вось я цябе „наякаю“!—яшчэ зласней ляснуў зубамі Воўк, і ў яго аж слінкі пацяклі. Воўк на гэты час быў галодны, і не мог больш трываць; ён падскочыў да Вожыка і цапнуў яго ў сваю шырокую ляпу. Але тут здарылася нешта такое, ад чаго ў Воўка аж іскры пасыпаліся з вачэй... Выплюнуў ён Вожыка ды ходу далей ад бяды. Бяжыць, а за ім услед дарожка ад крыві: вядома, увесь рот скалоў яму Вожык.

Прыбег Воўк дахаты сярдзіты, сярдзіты, сядзіць і крывёю плюецца.

Ідзе неўзабаве сусед яго Міхайла Іванавіч. Убачыў ён, што Воўк крывёю плюецца.



— Што гэта,—кажа,—суседзе, з табою? ці не ў зубнога быў? Зубы рваў, ці што?

— Ай, Міхайла Іванавіч,—кажа Воўк Зубасты,—горш.—І расказаў ён суседу пра сваю бяду: як Вожык рэзаў яго вострымі нажамі ды калоў вострымі іголкамі. „Хоць ты ў лесе цяпер не жыві,—праслязіўся нарэшце ён,—хоць ты тапіцца ідзі“...

— Ладна, брат,—суцешыў яго Міхайла Іванавіч.—Я, брат, за цябе заступлюся. Як стрэну яго—заб'ю. Ужо я не дапушчуся, каб ён мне горла нажамі рэзаў. Лапай як стукну, дык і канцы яму будуць. Бач, які спрытны: нажамі рэжа. Пачакай-жа, я табе пакажу. І Міхайла Іванавіч давай тупаць і гарачыцца.—Так разгарачыўся, што гатоў хоць зараз ісці Вожыка біць. Але ўспомніў, што выбраўся рыбу лавіць, бо вельмі прагаладаўся за доўгі дзень.

— Бывай, брат,—кажа ён,—не турбуйся. Усё будзе, як я сказаў.

* * *

І Міхайла Іванавіч пайшоў. А Воўк астаўся дома. Страшна куды нос паказаць, каб зноў не нарвацца на таго Вожыка.

Прышоў Міхайла Іванавіч на рэчку, сеў на беражку і заняўся рыбацтвам. Убачыць з берагу рыбу, хваціць яе лапаю ды выкіне за куст. Або засадзіць лапу пад корч ці ў нару і выцягне адтуль вусатага рака.

Вось лавіў ён так, лавіў, а нарэшце парашыў і закусіць. „Мабыць, шмат ужо рыбкі набралася“, — падумаў ён. „Ну і закушу на славу!“ І ў Міхайлы Іванавіча загадзя пацяклі слінкі.

Прышоў ён за куст, а там—аніводнай рыбкі. І ніводнага рака таксама. „Што за праява,—бурчыць Міхайла Іванавіч,—куды-ж падзелася рыба? Нібы скрозь зямлю правалілася...

Аж бачыць—недалёка Лісіца Хітрыца круціцца.

— Гэй, рыжуха,— гукнуў да яе Міхайла Іванавіч,—як табе не брыдка? Ды я... ды я-ж цябе самую зараз з'ем за такія штучкі.—І ён рашуча падаўся да Лісіцы Хітрыцы.

— Што ты, Міхайла Іванавіч,—ласкава загаварыла Лісіца,—хіба-ж можна, каб я ды тваю рыбку з'ела...



— А хто-ж, калі не ты?—зароў Міхайла Іванавіч.

— Ведаю хто,—шэпча яму здалёк Лісіца,— ды толькі сказаць баюся. Хіба на вушка, каб хаця не пачуў *ён*. А то не жыць тады мне.

Падышла Лісіца блізка да Міхайлы Іванавіча і шапнула яму на вуха:

— Вожык, каб я так жыла, сама бачыла.

Яшчэ горш усхадзіўся Міхайла Іванавіч, яшчэ больш на Вожыка ўзлаваўся. Аж на месцы не ўстоіць... Так і гарацць ад злосці яго кіпцюры.

— Дзе ён, Лісічка, пакажы мне,—просіць Міхайла Іванавіч.

А Лісіцы толькі гэтага і трэба было: Міхайла Іванавіч ужо напэўна за ўсіх Вожыку адпомсціць. Яна з ахвотаю згадзілася паказаць вожыкаву хату.

Вось ішлі яны ішлі, нарэшце дайшлі.

Вожык толькі што вярнуўся з палявання і цяпер соладка драмаў на мяккай ліставой пасцелі. Яму сёння добра пашанцавала: ён злавіў з дзесятак жаб і мышэй, нарэшце натрапіў на птушыныя яечкі, ды і запіў імі свой багаты абед. Вось чаму зараз быў ён у добрым настроі і, дрэмлючы, думаў аб нядаўных прыгодах з Лісіцай і Воўкам. Пасля гэтых прыгод ён не на жарты стаў баяцца жыць на свеце. Але, мяркуючы па ўсім,—не толькі, ён, Вожык, збаяўся Лісіцы і Воўка, наадварот,—хутчэй яны збаяліся яго. Бо калі-б не так, дык чаго-ж паўцякалі ад яго і Лісіца і Воўк, не кажучы ўжо пра Зайку. Гэта апошняе наводзіла Вожыка на думку, што, мабыць ён і ёсць самы дужы і грозны ў лесе звер. Ад гэтай думкі яму станавілася весела і прыемна. Як-ні-як— гэта не хаханькі! Аднак тут раптам успомніў ён, што ёсць яшчэ ў іхнім лесе звер Міхайла Іванавіч— не раўня ні Лісіцы, ні Воўку, а пра Зайку ўжо і гаворкі няма. Гэтыя непрыемныя ўспаміны крыху астудзілі геройскі настрой ваяўнічага Вожыка. Але як кажуць: пра воўка памоўка, а ён тут. Так было на гэты раз і з мядзведзем. Толькі Вожык падумаў пра яго, а ён тыц сюды, і не адзін нават.

Як убачыў іх Вожык, дык і замёр ад страху. Згарнуў у клубочак сваё шчацінне і падрыхтаваўся да смерці.

Падышоў Міхайла Іванавіч бліжэй да Вожыка, паглядзеў, паглядзеў, а пасля калі зараве на ўвесь лес:

— Ах, ты, абжора: сам з клапа, а бач колькі рыбы маёй з'еў! Я-ж цэлую ноч лавіў. І як толькі цябе, абжора, не разарвала на кавалкі!..

Лісіца-ж тымчасам аж душыцца сосмеху: вядома, рыбку то яна сама з'ела.

Лаяў Міхайла Іванавіч Вожыка, лаяў, а ён хоць-бы што. Нават не зварухнецца. Тут Міхайла Іванавіч яшчэ больш усхадзіўся: ён-жа ў сваім лесе звер над усімі звярамі і кожны павінен не толькі слухацца яго, а і дрыжэць перад ім! А Вожык не лічыць патрэбным нават глянуць на яго грозную асобу: паеў усю рыбку і не лыс. Хацеў Міхайла Іванавіч схапіць Вожыка ды разарваць, але ўспомніў горкую воўчую практыку. Тады ён з усяго маху хваціў Вожыка лапай. Вожык адкаціўся ў бок і нічога. А мядзведзь так і заскакаў на трох нагах: уся лапа яго была паранена і ўтыкана іголкамі. Заенчыў ён ад болю ды ходу далей ад бяды на трох нагах. Лісіца за ім.

Выцягнуў Вожык галаву з калючак на свет і бачыць: Міхайла Іванавіч дае драла на трох нагах і Лісіца Хітрыца за ім ледзь паспявае. Тут ён расхрабрыўся ўжо як мае быць.

— Трымай іх, трымай разбойнікаў!—крыкнуў ён наўздагон.

Мядзведзю здалося, што Вожык даганяе іх, ён апусціўся на ўсе чатыры лапы і, не зважаючы на страшэнную боль, так памчаўся, толькі лес трашчыць.

*
* *

Вось прыбеглі Міхайла Іванавіч з Лісіцай да Воўка і Зайкі.

— Ну, як: задушыў Вожыка?—пытае Воўк.

— Задушыў, задушыў,—перадражніў яго злосны Міхайла Іванавіч.—Бачыш, як ён мяне пакалечыў,—і ён выставіў наперад сваю скрываўленую лапу.—Так пеканўў,—кажа,—мяне па лапе гэты звяруга, што я чуць не памёр ад болі. Ах, Зайка, ах даражэнькі, вазьмі абцужкі, павыцягвай з лапы іголкі. Цярпець не магу.

Узяў Зайца абцужкі, павыцягваў з мядзведжай лапы іголкі і перавязаў яе бінтам.

Вось паселі звяры ў рад і сталі бедаваць, сталі думу думаць, як ім Вожыка перамагчы. Але што не прыдумаюць—усё не так. Нарэшце Лісіца і кажа:

— Хадзем хіба на яго ўсе разам. Быць не можа, каб рады не далі.

Прапанова Лісіцы была самая разумная, і ўсе ахвотна з ёю згадзіліся.

Выстраіліся яны адзін за адным і пайшлі. Спераду ішоў самы галоўны звер—Міхайла Іванавіч, за ім—Воўк Зубасты, за Воўкам—Лісіца Хітрыца, а за Лісіцаю—Зайка Шарачок. Ідуць і разважаюць паціху, як ім Вожыка абхітрыць. Лісіца і кажа:

— Лепш за ўсё разарваць яго на кавалкі. Ты, Міхайла Іванавіч, як самы дужы, будзеш цягнуць за галаву, ты, Воўк Зубасты і Зайка Шарачок, за хвост—вось у вас і роўная сіла будзе. А я буду каманду падаваць. Як крыкну—раз-два-тры— дзяры! дык вы і рвіце яго.

Усе зноў згадзіліся з лісіцынай прапановай. І сапраўды лепш за яе не прыдумаеш, хоць-бы размудрыўся.

Прышлі яны да Бярозавай гары, глядзяць і вачам не вераць: на палянцы пад гарою Вожык душыць страшную атрутную змяю. І так смела і адважна распраўляецца з ёю... Зайка тут-жа і самлеў: ён не мог бачыць такой жахлівай сцэны. Лісіцу з перапалоху схапіў жывот, і яна хутчэй паімчалася ў кусты. У Воўка Зубастага забарабанілі зубы. Нават у Міхайлы Іванавіча закалаціліся падЖылкі.

— Не,—кажа Міхайла Іванавіч,—з такім адважным зверам жарты кароткія. Ён нават атрутнай змяі не баіцца, не то нас.

Завярнуўся тут Міхайла Іванавіч ды ходу, а за імі ўсе звяры.

З таго часу ўсе яны баяцца Вожыка і не чапаюць яго. Толькі адна Лісіца Хітрыца прыдумала спосаб, як Вожыка перамагчы, але нікому аб гэтым не сказала. Ды і самой ёй не заўсёды гэты спосаб удаецца.



# Багаж

## С. МАРШАК

*Рысункі А. ШАХРАЯ*



ДАМА здавала ў багаж:
Дыван,
Чамадан,
Сакваяж,
Карціну,
Карзіну,
Дзіцячую тачку
І маленькага сабачку.

Выдалі даме на станцыі
Чатыры зялёных квітанцыі
Аб тым, што атрыман багаж:
Дыван,
Чамадан,
Сакваяж,
Карціна,
Карзіна,
Дзіцячая тачка
І маленькі сабачка.

Рэчы вязуць на перон,
Грузяць ў багажны вагон.
Гатова: на месцы багаж—
Дыван,
Чамадан,
Сакваяж,
Карціна,
Карзіна,
Дзіцячая тачка
І маленькі сабачка.



Дзе раней быў маленькі сабачка.
Прыехалі ў горад Сумы.
Насільшчык пятнаццаты
нумар
Нясе на спіне ў экіпаж
Прыехаўшай дамы багаж:
Дыван,
Чамадан,
Саквояж,
Карціну,
Карзіну,
Дзіцячую тачку,
А ззаду вядуць
І сабачку.



Але толькі раздаўся званок,
Сабачка з вагона уцёк...
Хапіліся на станцыі Дно:
Згубілася месца адно.
У спалоху лічаць багаж:
Дыван,
Чамадан,
Саквояж,
Карціна,
Карзіна,
Дзіцячая тачка...
Таварышы! а дзе-ж сабачка?

Раптам—зірк!
Стаіць каля бака
Вялізны, кудлаты сабака.
Злавілі яго ды ў багаж,
Туды, дзе ляжаў
Саквояж,
Карціна,
Карзіна,
Дзіцячая тачка,





Дзіцячую тачку...
Аддавайце майго сабачку!

Дазвольце, грамадзянка! На
станцыі,
Згодна багажнай квітанцыі,
Ад вас атрымалі багаж:
Дыван,
Чамадан,
Сакваяж,
Карціну,
Карзіну,
Дзіцячую тачку
І маленькага сабачку...

Сабака-ж як завурчыць,
А дама як закрычыць:
— Разбойнікі! Чэрці! Зладзеі!
Куды вы малога сабачку падзелі?

Шпурнула яна чамадан,
Нагой адапхнула дыван,
Карціну,
Карзіну,

Але што-ж? За дарогу—
Пакуль поезд давёз,
Напэўна сабачка
Ў вагоне падрос!

*Пераклад А. ЗІМІОНКІ.*



ЯКУБ КОЛАС
*Рыс. В. Ціхановіча*




Гаспадаром певень ходзіць,
За сабою куры водзіць
І крычыць: „Сюды! сюды!“

Як кіўне ён галавою,
Сыплюць куры чарадою—
Як адна, бягуць туды.

А калі хто кур пужае,
Певень грозна загукае:
„Хто такі там? Хто такі?“

Вось на ток ён зачасаўся.
„Кыш!“ адтуль хтось адазваўся.
„А які там чорт? Які?“

Певень жытам кур частуе,
Гаспадара бы й не чуе,
Кліча кур: „Сюды! сюды!“

Гаспадар мятлу хапае,
Гвалт наш певень падымае:
„Хто куды! Ой, хто куды!“







**НА МАНЕЎРАХ БВА.** *Камандзір атрада парашутыстаў тав. КАРМАЛЮК растлумачвае па карце тав. ВАРАШЫЛАВУ месца высадкі парашутыстаў. Справа ад тав. Варашылава стаяць т.т.: ГІКАЛО, ЛЕПЛЕЎСКІ і ГАЛАДЗЕД.*

# ПРАВЕРКА БАЯВЫХ СІЛ

Раніцай 8 верасня кавалерыя чырвоных, падтрыманая самалётамі, напала на часці сініх. Сінія сталі абараняцца. Яны пусцілі ў ход танкі. Чырвоным прышлося туга, і яны патроху пачалі адступаць. Але дзе-ж падзеліся танкі чырвоных? Хіба ў іх няма? Не, ёсць, ды яшчэ якія танкі! Аднак справа ў тым, што на вайне апрача сілы патрэбна і хітрасць. Вось чаму, пакуль сінія захапляліся часовай перамогай, танкі чырвоных зайшлі ім у тыл і атакавалі з бакоў... Сінія не вытрымалі і здаліся.

Так пачаліся вялікія манеўры войск Беларускай ваеннай акругі каля Менска. Праўда, бой, апісаны тут, быў несапраўдны: стралялі халастымі кулямі і знарадамі. Вынікі баёў вырашаліся спецыяльнымі суддзямі, так званымі пасрэднікамі.

Манеўры—гэта баявы экзамен, праверка баявой падрыхтаванасці Чырвонай арміі. Звычайна кожны год Чырвоная армія на практыцы правярае сваю сілу і гатоўнасць разбіць любога ворага, які адважыцца напасці на нашу радзіму.

Чырвоная армія—самая магутная армія ў свеце. У ніводнай арміі няма такіх храбрых, добра абучаных лётчыкаў, выдатных парашутыстаў, танкістаў і байцоў, як у нашай Чырвонай арміі. Байцы Чырвонай арміі акружаны ўвагай і любоўю ўсяго народу, любоўю вялікага правадыра Іосіфа Вісарыёнавіча *Сталіна*.

На манеўрах прысутнічаў Нарком абароны першы маршал Савецкага Саюза Кліменцій Ефрэмавіч *Варашылаў* і маршалы *Будзённы, Егораў* і *Тухачэўскі.* Працоўныя Менска і ўсе чырвонаармейцы з гарачай радасцю сустракалі і віталі дарагіх гасцей. Кліменцій Ефрэмавіч усе дні манеўраў правёў сярод байцоў. Ён асабіста правяраў ход манеўраў, цікавіўся планамі асобных часцей, гутарыў з чырвонаармейцамі.

Свой баявы экзамен байцы Чырвонай арміі вытрымалі на выдатна.

Няхай жыве Чырвоная армія і яе слаўны палкаводзец таварыш *Варашылаў!*

# ПІСЬМО ПІОНЕРАЎ МЕНСКА т. ВАРАШЫЛАВУ

## *РОДНЫ, ЛЮБІМЫ КЛІМЕНЦІЙ ЕФРЭМАВІЧ!*

Мы так хацелі Вас зноў убачыць і незвычайна рады Вашаму прыезду да нас у Менск. Гэтага моманту ўсе дзеці горада чакалі з нецярпеннем.

Дарагі Кліменцій Ефрэмавіч! Мы прачыталі шмат кніг аб Чырвонай арміі, часта бываем у гасцях у нашых храбрых чырвонаармейцаў і вельмі любім іх—абаронцаў совецкіх граніц.

У гэтым годзе ў нас многа радасцей. Мы добра і весела адпачылі ў піонерскіх лагерах. Менскія піонеры растуць моцнымі, бадзёрымі, вясёлымі. Сярод нас многа юных варашылаўскіх стралкоў, авіямадэлістаў, значкістаў БГПА, ППХА і ГСА. Сярод нас ужо ёсць варашылаўскія кавалерысты. З ранніх год мы рыхтуемся да абароны нашай шчаслівай радзімы.

Калі мы вярнуліся ў школы, дык не пазналі іх.

За час канікул зрабілі рамонт, прыгожа абсталявалі класы.

Мы вельмі шчаслівы, што аб нас так клапоцяцца. Мы хочам Вам расказаць, таварыш Варашылаў, яшчэ аб адной радасці: хутка ў Менску адкрываецца Палац піонераў і окцябрат, пабудаваны па ініцыятыве нашага дарагога Нікалая Фёдаравіча *Гікало*. У Палацы будзем праводзіць вольны ад вучобы час. Там ёсць шмат цікавага, карыснага і захапляючага для нас.

Але Ваш прыезд у Менск для нас найвялікшая радасць!

Фашысцкія псы—Троцкі і Зіноўеў—хацелі забіць нашага дарагога *Сталіна*, рыхтавалі замах і на Ваша жыццё. Наша піонерскае дзякуй пільным чэкістам, якія папярэдзілі гэтую подлую справу і выратавалі жыццё нашых любімых правадыроў.

Дарагі Кліменцій Ефрэмавіч, перадайце ад нас гарачае піонерскае прывітанне нашаму любімаму і дарагому Іосіфу Вісарыёнавічу *Сталіну*. Перадайце яму, што мы абавязваемся ў гэтым годзе яшчэ лепш вучыцца.

Запрашаем Вас у наш выдатны Палац і ў нашы новыя сталінскія школы.

З гарачым піонерскім прывітаннем—

*піонеры-выдатнікі вучобы школ г. Менска.*



*Маршал Совецкага Саюза С. М. БУДЗЁННЫ і камандзір чырвоных АПАНАСЕНКА.*



*Замаскаваныя кулямёты чырвоных у час бою.*



*Чырвоныя казакі.*

# СЛОН-БРАДЗЯГА

*Апавяданне А. ПЯТРОВА*
*Рысункі К. Гедды*



Мая маці памерла, калі мне было тры гады. З таго часу я жыў на возе,—вялікім двухкалёсным возе, на якім была будка з чароту. Воз везла пара зебу[1]. Круглы год мы з бацькам ездзілі па дарогах Цэйлона[2], развозячы купцам тавары.

Аднаго разу мы спыніліся каля паштовай станцыі ў паўднёвай частцы вострава. Дарогу загарадзіў абоз.

— Далей ехаць нельга, — сказаў адзін з вознікаў: каля шасе бегае слон-брадзяга.

— Ён нападае на падарожных?—спытаў бацька.

— Брадзяга скінуў пад адкос тры вазы і забіў чалавека. У яго страляюць, але кулі адскокваюць ад яго, як арэхі ад сцяны.

— Чаму слана называюць „брадзягай"?— спытаў я ў бацькі.

— Гэта стары або хворы слон,—адказаў бацька.—Ён адстаў ад стада і спаганяе сваю злосць на людзях і жывёлах. Сустракацца з такімі сланамі вельмі небяспечна.

Вечарам прыехаў паштальён і сказаў, што слана ранілі і адагналі ў джунглі[3].

Мы далучыліся да абозу і на другі дзень рушылі ў дарогу.

Я задрамаў на мяшках. Раптам мяне разбудзіў крык:

— Слон! Слон!

Людзі паказвалі некуды ўверх. Я пагледзеў на круты схіл гары і ўбачыў слана, які павольна прабіраўся сярод кустоў.

У абозе пачаўся перапалох. Людзі кідалі як папала вазы і скоранька ўзлазілі на дрэвы.

— Стойце! Там цэлае стада сланоў!—закрычаў бацька.

Сапраўды, услед за першым сланом з кустоў вышаў другі, за ім—трэці. Велізарныя жывёлы спакойна ласаваліся травою, якую хобатамі запіхвалі ў рот.

Вознікі супакоіліся і ўзяліся падганяць зебу.

Шасе спускалася ў даліну рэчкі. Над намі раз-по-разу пралятаў дзікія паўліны і вялікія, белыя як снег чаплі.

У адным месцы абоз спыніўся. Пад адкосам валяўся воз з паламанымі аглоблямі. З-пад яго тырчэлі ногі мёртвага зебу. Адкос быў усеяны скрынкамі і мяшкамі, якія павывальваліся пры катастрофе.

— Тут арудваў слон-брадзяга,—заўважыў бацька.

— А дзе-ж вознік?

— Мабыць, яму удалося ўцячы...

Мы паехалі далей. Бацька і іншыя вознікі неспакойна паглядалі ў бакі. Даліна рэчкі густа зарасла бамбукам, сярод якога цямнелі лясістыя астравы.

[1] Гарбатая парода рагатай жывёлы.
[2] Востраў Цэйлон знаходзіцца ў Індыйскім акіяне.
[3] Джунглі—вялікія лясы.

Абоз пераехаў праз мост і пачаў падымацца пад гару.

Раптам ззаду пачуліся спалоханыя крыкі. Іх адразу-ж заглушыў візглівы рэў слана, трэск кустоў і грукат перакульваемых вазоў.

— Брадзяга! Брадзяга! Ратуйцеся!—крычалі навокал.

Бацька ўскочыў на перадок воза і пачаў з усяе сілы хвастаць зебу. Мы віхрам памчаліся па шасе. За намі і наперадзе нас імчаліся другія вазы, беглі людзі. На павароце дарогі я ўбачыў брадзягу. Высока задраўшы хобат, ён таптаў нагамі паваленага зебу. Мне кінуліся ў вочы доўгія белыя іклы і разяўленая ляпа слана, з якой вырываліся хрыплыя гукі.

Я ўчапіўся рукамі за скрынку і пачаў ад страху крычаць. Мне здалося, што слон зараз дагоніць нас і растопча мяне, як зебу.

Дарога пайшла з гары. Мы памчаліся яшчэ хутчэй. Міма нас мільгалі кусты, дрэвы, скалы. Я не пераставаў крычаць, хоць страшны рэў слана спыніўся.

— Не крычы,—сказаў мне бацька:—брадзяга не будзе даганяць нас.

Я так перапалохаўся, што хутка заснуў. Калі я прачнуўся, абоз стаяў каля рэчкі. Пад дрэвамі гарэлі кастры, навокал якіх сядзелі align возніхі. Стрыножаныя зебу пасвіліся на даліне.

— Дзе брадзяга?—спытаў я ў бацькі.

— Яго застрэлілі англійскія паляўнічыя,—адказаў ён.—Шкада, што яны не падаспелі раней: брадзяга забіў шэсць зебу і зламаў некалькі вазоў. Бедныя возніхі, што яны цяпер будуць рабіць!

Мы далі зебу адпачыць і па палявой дарозе паехалі ў Матхару,—вялікае паселішча, куды бацька вёз тавары.






*Нарыс Я. МАЎРА*
*Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*

Нішто на свеце не застаецца ў аднолькавым стане, усё змяняецца, — не толькі жывёлы, расліны, але і сама нежывая зямля. Некалькі мільёнаў гадоў назад наша Беларусь была пакрыта тоўстым пластом лёду, а яшчэ дзесяткі мільёнаў год назад— тут было мора. А за сотні мільёнаў год на гэтым месцы, магчыма, уздымаліся высокія горы. Там, дзе цяпер Каўказ, калісьці таксама было мора.

Зусім зразумела, што расліны і жывёлы таксама змяняліся. Напрыклад, наша нікчэмная папараць была калісьці вялікім дрэвам, а продак нашага каня меў на нагах пяць пальцаў. Ды і продкі людзей мелі хвост і шэрсць, рэшткі чаго застаюцца ў нас і цяпер.

Якім чынам людзі даведаліся, што адбывалася на зямлі мільёны гадоў назад? Гэта ім расказала сама зямля. У пластах зямлі, як на старонках кнігі, захаваліся адбіткі раслін і жывёл, косці, а часам і значныя часткі саміх жывёл. Вучоныя перагортвалі гэтыя пласты-старонкі і чыталі гісторыю зямлі.



Перагорнем і мы некалькі старонак.

Быў час, калі галоўным насельніцтвам на зямлі былі вось гэтыя невялікія стварэнні. падобныя на ракаў, так званыя трылабіты. Ва ўсім свеце не было больш значнай жывёліны. Жылі яны ў моры, а на зямлі зусім не было жывёл.

Прайшлі мільёны гадоў... Царамі зямлі ўжо з‘яўляюцца ўсялякія яшчары (дыназаўры, бронтазаўры, мегалазаўры і г. д.), з якіх многія былі разы ў тры-чатыры большыя за сучаснага слана. Але галовы ў іх былі малюсенькія — дурныя, відаць, былі гэтыя волаты.

Нават у паветры панавалі яшчары: частка іх прыстасавалася да жыцця ў паветры. Хоць яны былі голыя, а лётаць маглі. На працягу тысячагоддзяў у некаторых з іх пачалі расці колкія пер‘і, а яшчэ праз тысячы гадоў з гэтых яшчараў выйшлі нашы цяперашнія птушкі.





Зноў прайшлі мільёны гадоў...

Цяпер ужо на зямлі пануюць велізарныя тоўстаскурыя звяры — дынатэрый, мерытэрый, мастадонт і іншыя. Чалавека яшчэ не відаць, а ёсць толькі стварэнні, крыху падобныя на чалавека.



Апошні з такіх волатаў — мамант — ужо жыў разам з чалавекам. Чалавек нават паляваў на яго. У Ленінградскім музеі ёсць палова маманта са скурай і мясам: ён захоўваўся тысячагоддзі ў ільдах Сібіры.

Прайшлі яшчэ сотні тысяч гадоў...

Цяпер на зямлі пануе чалавек. Ранейшых жывёл даўно няма; патомкі іх не па-



добны на сваіх продкаў. Толькі таракан без змен пражыў і з дыназаўрамі, і з мастадонтамі і шчасліва жыве з чалавекам.

# КІТАЙСКІ САКРЭТ

Шмат тысяч гадоў людзі карысталіся толькі звычайнай глінянай пасудай. Ні шкла, ні фарфара не ведалі.

Першымі навучыліся вырабляць фарфаравую пасуду кітайцы. Але яны нікому не выдавалі свайго сакрэту. У Еўропе кітайскі фарфар расцэньваўся на вагу золата. Апавядаюць, напрыклад, што адзін кароль аддаў другому цэлы полк салдат за набор кітайскай пасуды з 48 прадметаў.

І толькі гадоў 230 таму назад удалося разгадаць кітайскі сакрэт. Зрабіў гэта немец Бётгер.

Бётгер усё жыццё шукаў спосабу, як здабыць золата. Ён быў заўзятым алхімікам. Алхімікі—гэта людзі, якія думалі, што з жалеза, медзі і іншых металаў можна здабыць золата. Для гэтага трэба сплавіць металы з нейкім выдуманым імі каменем. Такога каменя яны шукалі дзесяткі год. Але, вядома, не маглі знайсці, бо яго не было і ў прыродзе.

У пошуках золата алхімікі часта выпадкова рабілі іншыя каштоўныя вынаходкі. Так было і з Бётгерам. Ён служыў у аптэцы вучнем і цішком ад гаспадара начамі займаўся сваімі вопытамі: шукаў золата.

Аднаго разу гаспадар застаў яго за сваёй работай і выгнаў вон. Але праз нейкі час Бётгеру пашанцавала. Яго ўзяў да сябе адзін князь. Князі і каралі ў той час ахвотна брал на службу алхімікаў. Яны спадзяваліся, што алхімікі знойдуць спосаб вырабляць золата і гэтым абагацяць іх. Калі-ж у алхімікаў нічога не выходзіла, каралі іх вешалі або прыдумлівалі іншыя страшныя кары.



Так здарылася і з Бётгерам. Золата ў яго не атрымлівалася, і князь пасадзіў яго ў турму за машэнства.

Але Бётгеру і на гэты раз пашанцавала. Пра яго дачуўся кароль і прапанаваў яму новую работу: выкрыць кітайскі сакрэт, гэта значыць знайсці спосаб вырабу фарфара.

Праз нейкі час Бётгер выкрыў кітайскі сакрэт: праўда, першы фарфар атрымаўся карычневы, але потым яму ўдалося дабіцца і белага фарфара. Кароль зарадваўся і абвясціў гэты спосаб дзяржаўнай тайнаю. А Бётгера і яго памочнікаў загадаў трымаць пад вартай, як злачынцаў: кароль баяўся, каб як-небудзь не выкрылі сакрэта.

Бётгер не вытрымаў такога жыцця і парашыў уцячы. Аб гэтым даведаўся кароль. Бётгеру пагражала смерць. Аднак яму зноў пашанцавала, ужо апошні раз: ён памёр у турме і гэтым пазбавіўся ад пакарання смерцю.

У чым-жа заключаецца кітайскі сакрэт?

Сакрэтаў не адзін, а многа.

Каб зрабіць фарфар, патрэбна белая чыстая гліна, чысты пясок, добрая слюда і інш. Усё гэта мелецца на драбнюткі парашок. Парашок змешваецца ў цеста, а з цеста робяць пасуду на ганчарным станку. Потым пасуду сушаць і апальваюць. Самы галоўны сакрэт—гэта апальванне фарфара. Яго трэба апальваць пры вельмі высокай тэмпературы, але так, каб фарфар не расплавіўся. Пры апальванні атрымліваецца шмат браку. Таму фарфаравая пасуда і зараз каштуе шмат даражэй за звычайную гліняную, якую вырабляць значна прасцей і лягчэй.



*Паводле М. ІЛЬІНА*

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ВЕРАСЕНЬ 1936 г. № 9

ЦАНА 30 кап.



## ЗАГАДАЧНЫ РЫСУНАК



Колькі на гэтым рысунку піянераў? Раней чым адказаць, уважліва разгледзце рысунак.



## ЛАБІРЫНТ

Перад вамі дзіўны рысунак з мноствам ломаных ліній. Аднак між гэтых ліній ёсць ход зверху ўніз і наадварот—знізу ўверх.

Паспрабуйце знайсці гэты ход.



## ЦІКАВАЯ ЗАДАЧА

Ведаеце, чаго задумаўся гэты піянер? Яму далі цікавую і складаную задачу: не адрываючы каранадаша ад паперы нарысаваць гэтыя фігуркі. Дапамажыце яму зрабіць гэта.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.
Друкарня імя Сталіна 12.000 экз. Заказ № 999 Уп. Галоўлітбела № Б1486.